# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 48 (927) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 2 СНЕЖНЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ хроніка

■ На Гайнаўшчыне пасяхова праходзіць справаздачная кампанія ў гуртках БГКТ. Для многіх гурткоў гэта справаздачна-выбарная кампанія, таму што за два мінулыя гады многія члены праўленняў выехалі са сваіх вёсак і неабходна было правесці выбары новых праўленняў. І так, у апошні час справаздачна-выбарныя сходы адбыліся ў Махнатым, Чарэмсе-вёсцы і Клейніках. Усюды пасля справаздачнага даклада адбылася творчая дыскусія, на аснове якой былі выпрацаваны далейшыя напрамкі дзейнасці, зацверджаны планы працы і выбраны новыя праўленні, у склад якіх увайшлі:

У Махнатым — Анна Білеўская (старшыня), Янка Кот, Клаўдзія Кот, Уладзімір Матвеюк, Галіна Кот і Ірэна Грыгарук. (Усе 45 членаў гуртка аплацілі членскія складчыны за гэты год).

У Чарэмсе-вёсцы трыццаціасабовы гурток узначаліў Янка Шатыловіч, а ў праўленне выбраны Галіна Кердэлевіч, Ліда Раманюк, Юрка Шатыловіч і Яўгенія Унучко. Гурток БГКТ арганізуе тэатральны калектыў, які прыме ўдзел у конкурсе БГКТ.

У Клейніках у склад праўлення ўвайшлі: Янка Лабузінскі (старшыня), Надзя Аўласюк і Аляксей Іванюк.

■ Нядаўна ў клубе гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку адбылася аўтарская сустрэча Сакрата Яновіча, які чытаў свае новыя творы і адказваў на шматлікія пытанні прысутных. Многія з удзельнікаў сустрэчы мелі магчымасць купіць кніжку аўтара „Загоны".

■ 17 лістапада ў клубе БГКТ у Беластоку адбылася сустрэча з пісьменнікам Янам Гушчам.

■ Пад мастацкім кіраўніцтвам Аляксандра Лукашука (дырыжор) і Янкі Крупы (харэограф) 17 лістапада ў памяшканні ГП БГКТ у Беластоку выступіў з канцэртам беларускі калектыў песні і танца БГКТ „Белавежа" з Белавежы.

■ Жаночы харавы калектыў БГКТ з Гарадка, якім кіруе Сцяпан Копа, 18 лістапада выязджаў з канцэртам у Крынкі, што на Сакольшчыне.

■ На нарадзе старшынь гурткоў БГКТ Беластоцкага павету, якая адбылася 18 лістапада ў Беластоку, старшыня аддзела Янка Цялушэцкі паінфармаваў аб працы прэзідыума і праўлення аддзела і аб заданнях справаздачнай кампаніі, якая распачалася ў БГКТ. Сакратар аддзела Геня Іванюк пазнаёміла старшынь гурткоў з правіламі песеннага конкурсу і конкурсу тэатральных калектываў, якія адбудуцца ў 1974 годзе, але да якіх неабходна ўжо цяпер пачаць рыхтавацца.

■ 18 лістапада гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізаваў сустрэчу з Уладзімірам Паўлючуком — аўтарам кніжкі „Светапогляд адзінкі ва ўмовах распаду традыцыйнага грамадства". (мх)



У Ляўкове прыбывае мураваных дамоў.

# ЛЯЎКОВА-ВЁСКА ПРАМЫСЛОВАЯ

Усё больш чутна на Гайнаўшчыне ды не толькі на Гайнаўшчыне пра Ляўкова. Вёска гэтая знаходзіцца ў паўночна-ўсходняй частцы павету. Жывапісная тут ваколіца. Вёска на невялічкім узгорачку. Абступаюць яе палі, а з поўдня і захаду сенажаці, рака Нараўка, ды дрымучы сасновы бор. Усё больш экскурсій і турыстаў пачынае наведваць Ляўкова і яго наваколле. А была б яшчэ асфальтная дарога з Гайнаўкі (пакуль што Ляўкова з горадам спалучае разбіты грузавымі машынамі брук) і некалькі плацін на рэчцы! Аднак і цяпер ужо многія гараджане ахвотна прыязджаюць адпачываць на Нараўку.

Гэта не ўсе тыя дары прыроды, якімі багата ляўкоўская ваколіца. У 1970 годзе на багатых рэсурсах высокаякаснай гліны пачынае прадукцыю керамічная фабрыка. Спачатку выпускала яна 18 мільёнаў керамічных адзінак у год, а зараз у тры разы больш. Хваляць будаўнікі ляўкоўскую цэглу К-2 і У-25/20 і дрэнацыйныя трубкі. Цэгла ідзе нават на экспарт. Мільёны штук. На фабрыцы працуе больш 320 асоб, у тым ліку адна трэцяя — гэта жыхары Ляўкова. З некаторых ляўкоўскіх сем'яў працуе па некалькі асоб. Найбольш маладых людзей. Многія з іх нават пазнаёміліся на фабрыцы, пажаніліся. Яны маюць добра платную працу, а некаторыя сем'і ўжо і кватэры ў блоках. Для многіх адкрываюцца шырокія магчымасці будаваць уласныя дамы. Дык і растуць яны, як грыбы пасля дажджу. Налічыць можна іх каля двух дзесяткаў, усе снежнабелыя, з вялікімі вокнамі і прыгожымі ганачкамі. Не менш ёсць і мураваных сельскагаспадарчых будынкаў, паколькі ляўкоўцы пакрысе гаспадараць і на зямлі. Праз вёску і да чыгуначнага вакзала пракладзены навюсенькі роўны брук. Гаспадары задбалі аб агароджы. Некаторыя маюць нават жалезныя брамы і веснічкі.

Будучыня Ляўкова цікавая і шматабяцаючая. Мо нават побач з керамічнай фабрыкай будзе пабудавана гута шкла. Аказваецца, што ёсць і да гэтага роду прамысловасці патрэбная сыравіна. Ужо вядома, што будзе тут цэнтр здароўя, святліца з кіназалам, новая школа. Вырастуць новыя блокі. Ужо зараз бліжэй да фабрыкі перабралася паштовая ўстанова. Ляўкова атрымала новыя гандлёвыя павільёны. Ёсць бібліятэка, спулдзельня здароўя і невялікая святліца.

Хочацца верыць, што мары пра будучыню Ляўкова як вёскі высокапрамысловай напэўна здзейсняцца.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



Ляўкоўская керамічная.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

**Размова з Мікалаем Самоцікам — старшынёй ГП БГКТ ● Пра жніво на Гайнаўшчыне ● Вечар з Янам Гушчам ● Лён, ты мой лён... ● Гапка адкрывае Барскага ● Сустрэчы з кандыдатамі ў рады нарадовыя ● Дом для васьміасабовай сям'і (будаўнічыя парады) ● Весткі з Чыжоў, Трасцянкі, Варшавы, Ягаднік, Спічкаў, Міхалова, Дубіч Царкоўных, Старога Корніна і інш... ● Песня Мама моя"**

# 1 МІЛЬЁН і 45 ТЫСЯЧ



Беласточчына ў найбліжэйшыя два гады павінна давесці стан быдла да мільёна штук. Дык неабходна інтэнсіфікаваць жывёлагадоўчую прадукцыю.

Мы пацікавіліся, як гэта справа выглядае ў Гайнаўскім павеце.

— **Да ваяводскага мільёна,** — сказаў нам сакратар па сельскагаспадарчых справах павятовага камітэта партыі ў Гайнаўцы тав. Рышард Дваракоўскі, — **дакладаем ад сябе 45 тысяч штук рагатай жывёліны.**

Многа гэта ці мала?

У залежнасці ад таго, з якога боку паглядзець на справу. Цяпер у хлявах гаспадароў на Гайнаўшчыне знаходзіцца больш-менш 32 тысячы кароў і цялят. Такі вынік даў апошні чэрвеньскі сельскагаспадарчы перапіс. Значыць, да 45 тысяч не хапае яшчэ каля 12—13 тысяч штук. Адначасова ўстаноўлена было, што на працягу 1972 года рагаты статак Гайнаўскага павету павялічыўся на 2200 штук. Калі б устанавіўся толькі такі гадавы прырост у жывёлагадоўлі Гайнаўскага павету, патрэбна было б аж 5—6 гадоў на тое, каб атрымаць гэтыя 45 тысяч штук жывёлы. Такі прагрэс нікога цяпер не задавальняе. Ён несумяшчальны з агульнапольскім сучасным тэмпам развіцця нацыянальнай гаспадаркі.

— Мы гэта дасканала разумеем, — сцвярджае сакратар Дваракоўскі, — і таму пры кожнай нагодзе тлумачым сялянам, што можна гаспадарыць лепш і больш плённа.

Гайнаўшчына даволі багатая лугамі. На яе тэрыторыі знаходзіцца амаль 27 тысяч гектараў зялёных угоддзяў. Гэта асноўная база для жывёлагадоўлі. Калі палічыць, дык выходзіць, што цяпер кожныя сто гектараў зялёных угоддзяў кормяць на Гайнаўшчыне ледзь сорак кароўак. Гэта мала, гэта шмат ніжэй ваяводскага ўзроўню, бо норма прадбачвае не менш 100 штук жывёлы на 100 га зямельных угоддзяў.

Гэтыя ўгоддзі не могуць быць абыякія. У Гайнаўскім павеце дагэтуль пасучаснаму загаспадарана ледзь 100 тысяч даўнейшага балота. Значыць, менш чым палавіна. Астаюцца яшчэ амаль не кранутыя цэлыя даліны рэк Нарвы і Нараўкі. Каб разводзіць жывёлагадоўлю, трэба іх меліяраваць. Здзейсніцца

(Працяг на стар. 4)

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 179



Давай яшчэ раз затанцуем
пад скрыпкі салаўёў-паэтаў
пад зялёны раяль дубровы
давай яшчэ раз затанцуем
закружымся у травы рынем
і дамо пачатак сыну
што ў пульсах нашых б'ецца
як кроплі вады ў нетрах
як атамы ў бурным ветры
у травы рынем
і сплодзім сына.

**Алесь Барскі**



## ЭКЗІСТЭНЦЫЯЛІЗМ

працэс стварэння
майго існавання
быў выпадкам
або карысталюбным
эксперыментам

лічылі дні
майго нараджэння
нехта купляў кветкі
хтосьці купляў калясачку
світарок

не пыталі мяне
ці я хачу ці не
не мела я ўплыву на гэта
ці буду існаваць ці не

я проста ўкінутая
ў існаванне

са зводняй кандыцыі
асуджаная на свабоду
буду тым
чым сама сябе ўчыню

ці знайду ў сабе апору
ці рассеюсь у занятках штодзённасці
ці ўнікну сваёй долі
ці змагу тварыць сэнсы

непакой не змаўкае
час адсланяе
цэлую маю штучнасць
і непатрэбнасць
(значыць іграю штуку жыцця)

не я не адзінокая
не я не пакінутая
шукаю свайго бога
малюсь афарызмамі:
няхай сродкі
не станоцца мэтай

ёсць жа выхад
годны чалавека
пераступаць за сябе
падымацца па-над сябе
безупынна
безупынна

чалавек мусіць
стала верыць у тое
што мае ў сабе
незнішчальнае.

**З. Сачко**



## СЭРЦА МАЦІ

**Кажуць, што два сэрцы кахаюцца... Сэрца дзяўчыны стукае пры відзе каханага хлопца і наадварот. Сябры, але звярніце ўвагу, што цэннасць сэрца прыяцеля заглушае дабрачыннасць сэрца маткі.**

Ціхенька
звіняць
твае словы, мама,
шчыкатлівa
дрыжаць,
прыемна
прымае іх дзіця.
Мама, сэрца тваё адкрытае,
Сэрца тваё ад вякоў знанае.
З сэрца твайго словы, хвалі, плывуць,
У гэрцы-гарнцу, як кіпячы мёд,
узнымаюцца.

Вочы —
дзве зоркі ясныя
да канца
жыцця
прысвячаць
нам будуць,
шлях
жыццёвы
вызначаць.
Мама, сэрца тваё кахаем
Над цану золата ставім,
і сапраўды рэчаіснасць
дабраты ў вачах тваіх адбіваецца.
Перабачаеш
нам
крыўды,
памылкі
жыццёвыя,
паступкі неразважныя,
мама...
Пра маму, маму і яе сэрца
спяваць і славіць голас рвецца,
ўзляцець высока, аж пад неба
і ўспалыхнуць святлом агнявым.

**Ніна Гаўрылюк**



* * *

Чаму закрытыя вокны
чаму зноў снег за вакном
і ноччу і ўдзень
і вочы чаму пустыя
ўсё роўна
камень у цела
не запусціць карэнняў
ні вейкі ў шкло

чую як хмары ідуць
труць аб коміны поўнымі жыватамі
як хтось знагла паветра змуціў
і вецер памчаў магільны
ў апусцелых панадворках
чаму...

яшчэ лясных краявідаў шукаць
дзе каханне з дзіцячым тварам
задрамала на грудзях лугу
— душа мая
станься дзіцём.

**Кастусь Бандарук**

## Аня

**(КАРОТКАЯ БІЯГРАФІЯ)**

Аня нарадзілася ў тысяча дзевяцьсот саракавым годзе. Хадзіць вучылася ў маці і бацькі. Першую лялькупашыла сама. Ад пятага году чысціла зубы, мылася па пояс. Дзяўчынкі шанавалі яе, хлопчыкі прыглядаліся. Аня ведала літары!

Першы клас закончыла з пяцёркамі. Гэтаксама другі клас. У пятым — адкрыла памылку ў падручніку.

Хлопцы не біліся снежкамі, калі яна выходзіла са школы. Дакладна — у сёмым класе заваявала першае месца ў матэматычнай алімпіядзе. У ліцэй Аню прынялі без уступных экзаменаў. Гэта за выдатныя адзнакі.

У ліцэі правучылася выдатна. Не малявала губоў. Залёты канчала на першым або другім позірку. Удзельнічала ў гуртку маладых матэматыкаў. На вучнёўскія вечарыны хадзіла у дзесятым і адзінаццатым класах; танцавала з сяброўкаю. Жартаў не слухала, засвойвала танец.

У адзінаццатым класе Аня ўдарыла па шчацэ Андрэя. Ён спрабаваў праводзіць яе з вечарыны.

У час выпускнога балю танцавала: з бацькам, з маці, з класным выхавацелем і старшынёй бацькоўскага камітэта. Старшыня пацалаваў яе ў руку, п'яны. Андрэю адмовіла белае танга, дагарэў у куце.

Універсітэт. Залікі здавала не пацеючы, упэўнена. Да экзаменаў падыходзіла мужчынскім крокам, хлопцы адварочваліся. Уласціва — пад канец трэцяга курса бачыла будучыню. Заставалася недалёка, два курсы пакрай плытка закаранелых дубкоў без перспектывы ценю, хуткага. Выраслы дуб за небакраем. Пад ім будучыня: асобны дом — з гаражом, грошы — па патрэбнасці, час — удосталь, немагчымасці — пад абцасам.

Выйшла замуж за калегу бацькі, досыць маладога. Пазнаёмілася з ім у час сямейнай урачыстасці з выпадку атрымання ёю дыплома, былі запрошаны многія.

Вяселле адбылося праз тры месяцы, 13 кастрычніка — у трэцюю нядзелю перад Святам Памёршых.

**Сакрат Яновіч**

## ТРЫЗНЕННЕ

Не ўшчаслівіш
шчаслівых да канца,
абсалютна.

---

Эх ты, жаль,
і ты, горыч палючая,
што стаіш на дарозе
— пусці
— пуста?
Нібы пуста — сцвярджэнне.

---

А неба так высока,
плюнь на неба — мары.

---

Зноў дарога —
не плач, маленькая,
ты разбіла каленка
— ой баліць?
Не плач, перастань
— ужо не баліць?
Смяецца...
ямачкі на шчоках —
дзяўчынка, гады чатыры
— тклівасць

---

Адзін чорт знае
навошта, абагульненне.

**Ірэна Баравік**



На бельскай гаворцы

## Пройшлі тыйі ліета

Чую як у саді
Соловієй співає,
Ёго піесня в далі
Бы ручай сплывае.
Бачу бледный міесэць
Над окном склонівся.
В лісцях чэрэмшыны
Віетёр закрутівся.
Крачут дэсь вороны
Взорваны трывогой,
Як жэ дзісь далеко
Я од дому свого.
Помню, як бувало
У сэлі родному,
Йшлі мы на музыкі,
Нэсучы гармоню.
Пройшлі тыі ліета
Осталісь вспоміны,
По садах зэлёных —
— піесьнях соловійных.

**Ваня Кірызюк.**

**ПАВАРОТ**

Усміхаўся мне лёс
Ненадоўга
Шмат абцёр я ўжо рос
Усё роўна
Адышоў я туды скуль прышоў
Да карчавістых лоз
Да лугоў
Не
Па тым што пакінуў
Не плачу
Мае вочы прывыклі бачыць
Ранні золак
Красу
Жыццё тое простае
Што дало мне душу

**Ул. Гайдук**



 

Пачатак на стар. 1

# 1 мільён



# і 45 тысяч

гэта, безумоўна, яшчэ да канца гэтага дзесяцігоддзя.

Аднак чакаць бяздзейсна аж да часу меліярацыі гэтых вялікіх водных комплексаў нельга. Калі Гайнаўшчына ўсур'ёз хоча кожны год стан сваёй жывёлагадоўлі павялічваць не менш чым на 10 працэнтаў, дык дзейнічаць трэба ўжо цяпер, ды дзейнічаць паслядоўна і рашуча.

Сакратар Дваракоўскі ўказвае два асноўныя напрамкі: аднаўленне пароды быдла і жывёлагадоўчую спецыялізацыю сялян. Ваяводскія ўлады гарантуюць для Гайнаўшчыны пастаўку 1 800 штук маладых кароў і цялят нізіннай чорна-белай пароды, якая намнога больш прадуктыўная чым пануючая цяпер чырвоная польская. Прыдалося б, вядома, больш, але няма адкуль іх браць. Дык трэба інтэнсіўна разводзіць тое, што ўжо сяляне атрымоўваюць. Таму пародзістый гадаўляны матэрыял павінен трапляць перш за ўсё ў рукі вопытных гадоўцаў. І тут узнікае праблема спецыялізацыі. Тысячы дзве гаспадароў у Гайнаўскім павеце мае займацца гадоўляй малочных кароў і крыху больш будзе гадаваць маладняк на мяса. Тут перш за ўсё найбольш прыдатнай пародай з'яўляюцца шаралезы.

Адным з раёнаў Гайнаўскага павету, дзе прадбачваецца інтэнсіўнае развіццё жывёлагадоўлі, з'яўляецца гміна Чыжы. Кіраўнік тамашняй сельскагаспадарчай службы, аграном Мацей Дзівенга інфармуе, што абмен чырвонай польскай пароды на нізінную чорна-белую і шаралез распачалася ў Чыжоўскай гміне яшчэ ў ліпені гэтага года. Сяляне атрымалі звыш 300 штук цялят і ялovак.

— Стараемся, — гаварыў аграном, — каб пародзістыя матэрыял трапіў да добрых гаспадароў. Для прыкладу, Сцяпан Якімюк з Чыжоў на сваёй дзесяцігектаравай гаспадарцы трымае ўжо 6 кароў і 15 свіней. А цяпер прадалі мы яму цялічку „нцб“. Другі Якімюк з Чыжоў, Васіль, старшыня мясцовага сельскагаспадарчага гуртка, мае 11 га зямлі і трымаў 7 штук кароў. Цяпер купіў яшчэ двое цялят „нцб“.

Чыжоўская гміна — адна з лепшых на Гайнаўшчыне ў галіне развіцця жывёлагадоўлі. Тут на 100 га зямельных угоддзяў прыпадае ўжо 54 штукі быдла. Гэта нават вышэй сярэдняй ваяводскай. Затым інтэнсіўнае развіццё жывёлагадоўлі наглядаецца ў Кляшчэлеўскай і часткова ў Дубіцкай гмінах, а пасля меліярацыі даліны Нарвы будуць і там спрыяльныя ўмовы для пародзістых красуль.

Дарога да 45 тысяч кароў на Гайнаўшчыне вядзе таксама праз інтэнсіўнае абучэнне сялян на вячэрніх курсах. Адначасова трэба заахвочваць іх, каб спалучалі свае сілы і калектыўна займаліся жывёлагадоўляй.

**М. Нурэцкі**

СУСТРЭЧЫ З КАНДЫДАТАМІ Ў РАДЫ НАРАДОВЫЯ

# Аляксандр •БАЖКО•

Маладое пакаленне сялян, якое яно?

Адказ я спрабаваў шукаць у размове з Аляксандрам Бажко з вёскі Сухавольцы, Гайнаўскага павету. Нарадзіўся ён у 1950 годзе. Пасля пачатковай школы паступіў на сталярнае аддзяленне прафесіянальнай школы ў Гайнаўцы, затым працаваў столярам на Бельска-Падляшскім будаўнічым прадпрыемстве. Але нядоўга. А. Бажко вось ужо чацвёрты год вядзе разам з бацькамі 13-гектаравую гаспадарку. Яны нядаўна паставілі прыгожы, абшырны мураваны дом, салідныя мураваныя хлявы, абзавяліся сельскагаспадарчымі машынамі. У іх тры дойныя каровы, 2 цялушкі, шмат свіней, многа хатняй птушкі. Дом абсталяваны сучаснай мэбляй.

— Ці не падабалася вам праца столяра на прадпрыемстве?

— Мне добра працавалася, і заробкі як для пачынаючага працаўніка былі нядрэнныя. А сталярнічаць я люблю. Вось у доме паклаў падлогу і пры хлявах шмат чаго сам зрабіў. Але працуючы ў Бельску, я заўважыў, што самім бацькам цяжка весці гаспадарку: і здароўе слабое і сілы не стае. Што і казаць — гаспадарка не развівалася. І я з ахвотаю сам засучыў рукавы, цяпер не наракаю. Вось учора мы закончылі малацьбу. Жыта „Влашчаноўскае“ дало не менш як па 30 цэнтнераў з гектара, авёс „Пшэбуй 2“ — па 27 цэнтнераў. Бульба родзіць таксама добра, у гэтым годзе „Флісак“ даў па звыш 300 цэнтнераў з гектара. Зямля ў нас слабаватая, у асноўным V—VI класы. Але калі яе дагледзець і даць адпаведнае ўгнаенне, родзіць не горш, чым добрыя глебы. У мінулым годзе я высеяў штучных угнаенняў па 140 кг у чыстым спажыўным рэчыве на гектар, а ў гэтым ужо па 200 кілаграмаў. Маю ўсяго паўгектара лугу. Але і на гэта знайшоўся спосаб — усяваю ў жыта і авёс сырадэлю і маю збожжа і дасканалую пашу, два ўраджаі ў адзін год.

— Ці вы навучыліся гаспадарыць так сам па сабе?

— Ведаеце, я пераканаўся, што да гаспадаркі патрэбны ў большай меры веды і практыка, чым сіла. Многа чытаю сельскагаспадарчай літаратуры, а практыку праходжу ў нашым сухавольцаўскім гуртку сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Яго вядзе А. Младзяноўская — кіраўнік сельскагаспадарчай службы Кляшчэлеўскай гміны. Вядзем доследныя палеткі, параўноўваем вынікі. Цяпер заняліся ўводам у гадоўлю нізіннай чорна-белай расы кароў. Усе 14 членаў нашага гуртка набылі цялушкі гэтай расы. Гадуюцца добра. Праўда, працы ёсць шмат — мне даверылі ў гуртку адказнасць за вучобу, арганізацыю конкурсаў і іншых навучальных і доследных спраў.

— А ў працы маладзёжных і грамадскіх арганізацый удзельнічаеце?

— Так, і перш за ўсё ў Саюзе сацыялістычнай сялянскай моладзі. Вось ужо трэці год з'яўляюся старшынёй нашага сухавольцаўскага гуртка ЗСМВ, членам гміннага праўлення ЗСМВ у Кляшчэлях, у ім мяне выбралі намеснікам старшыні па грамадска-прафесіянальных справах. Уваходжу таксама ў склад пленума павятовага праўлення ЗСМВ у Гайнаўцы. Удзельнічаю і ў працы нашага гуртка Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Абодва гурткі ЗСМВ і БГКТ дзейнічаюць разам, маем драматычны гурток, у ім 11 асоб. Паставілі ўжо некалькі п'ес, між іншым, „У ціхім кутку“, „Дзесяць гектараў“, „Конскую кніжку“. Апошнім часам — „Кактусік“ на польскай мове. Цяпер падбіраем нешта на гэты сезон. Прымалі мы таксама ўдзел у „Вясне чынаў“, працавалі пры рамонце дарог. Летам пасаблялі старым і адзінокім сялянам пры жніве. А вось нядаўна здабылі ў гміне матэры-



ялы і перакрылі адзінокай старушцы дах на хаце. Цяпер жа зоймемся вучобай.

— Вы з'яўляецеся кандыдатам у радныя Ваяводскай рады нарадовай. Якія справы з сельскага жыцця вы лічыце найбольш актуальнымі і вымагаючымі вырашэння?

— Перш за ўсё — гэта дбайнае выкарыстанне кожнага кавалачка зямлі ды няспыннае павышэнне ўраджаю і павелічэнне гадоўлі. А ў гэтай справе важную ролю адыгрывае забеспячэнне сяла вадою з водаправодаў. Наша вёска ўжо рыхтуецца да гэтай інвестыцыі. У конкурсе „Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная“ мы занялі ў 1972 годзе вядучыя месцы ў павеце і ваяводстве і здабылі ў суме 200 тысяч злотых узнагароды. Гэта добры пачатак для будовы водаправода. Надта патрэбны таксама ў міжгуртковых машынных базах больш прадукцыйныя машыны, асабліва камбайны. Вымагае вырашэння і праблема селішчаў у вёсках-вуліцоўках. Селішчы ў іх надта вузкія, невыгодныя, няма дзе будаваць сучасныя хлявы і клуні, ды і з машынамі не павернешся. Больш увагі вымагае праца з маладымі сялянамі, яны адважней і ахвотней уводзяць у сябе сучасныя інтэнсіўныя метады гаспадарання. Таму сельскагаспадарчая служба не павінна скупіцца на працу з маладымі гаспадарамі і гаспадынямі. Здаецца, што ўжо настаў час, каб ствараць у гмінах мясцовы калектыў лектараў для вядзення ў вёсках лекцый па актуальных праблемах палітыкі і гаспадаркі. Сядзіба гміны ўжо мае магчымасці ператварыцца ў мясцовы цэнтр культурнага жыцця. А дзеля гэтага гмінныя дамы культуры патрабуюць спецыялістаў, якія б маглі прыйсці з дапамогай вясковым самадзейным мастацкім калектывам. У нас гэта вельмі добра робіць Славамір Місеюк, але ён — гэта рэдкасць ва ўсім наваколлі. У гміне патрэбны таксама спартыўны цэнтр з добрым стадыёнам, інструктарамі, пазычальняй спартыўных прыладаў, міжвясковымі і міжгміннымі розыгрышамі.

Дык вось якое наша маладое пакаленне сялян!

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

# ВЕЛАСІПЕДАМ У ШКОЛУ

Вельмі добра сталася, што паасобныя ўстановы прыхілілiся да акцыі „Веласіпедам у школу“ і на працягу кароткага часу купілі і перадалі найбольш патрабуючым і добрым вучням больш 80 веласіпедаў. Найбольш веласіпедаў купілі вучням Ваяводскае праўленне Таварыства сяброў дзяцей (19 штук) і Беластоцкае прадпрыемства другаразовай сыравіны (12 веласіпедаў). Па тры веласіпеды атрымалі, між іншым, гмінныя школы ў Супраслі (Беластоцкі павет) і ў Кляшчэлях (Гайнаўскі павет). Варта дадаць, што гэтыя школы штогод збіраюць шмат макулатуры.

Наш рэпарцёр прысутнічаў пры ўручэнні веласіпедаў вучням з супрасльскай школы. На здымку дырэктар БПСВ мгр Мікалай Зіневіч уручае веласіпед адной з вучаніц, якая ходзіць у школу з далёкай вёсачкі.



Тэкст і фота **Я. Ц.**

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# Нашаніўская пара

### КАРУСЬ КАГАНЕЦ (1868—1918) — ЧАСТКА І.

Карусь Каганец (сапраўднае прозвішча Казімір Кастравіцкі), як і Ядвігін Ш., быў пісьменнікам, звязваючым беларускую літаратуру XIX стагоддзя з літаратурай XX стагоддзя. Быў ён тыповым нашаніўцам і па сваёй дзейнасці, і па сваёй ідэалогіі, і па сваёй творчасці.

Паходзіў Каганец з абяднеўшай беларускай шляхты. Незайздросная эканамічная пазіцыя гэтай шляхты радніла некаторых яе прадстаўнікоў з імкненнямі і ідэалогіяй сялян. Нямала аднак сярод гэтай сацыяльнай групы было і такіх, што з пагардай адносіліся да сялянскай звычаёвасці і мовы. Каганец дасканала бачыў недарэчную абмежаванасць такіх прадстаўнікоў шляхты і жорстка высмяяў іх у сваёй п'есе „Модны шляхцюк“.

Нягледзячы на тое, што Каганец прымаў актыўны ўдзел у беларускім нацыянальным руху і ў дзейнасці „Нашай нівы“, не многа ведаем аб яго жыцці. Бадай, гэта было прычынай памылак у спробе акрэслення месца яго нараджэння, якія паявіліся, між іншым, у вядомай хрэстаматыі Дварчаніна. Дварчанін піша, што Каганец „Радзіўся недзе ў Гародзеншчыне, каля Белавежскай пушчы“. Інфармацыя гэта не згодна з праўдай. Каганец нарадзіўся 10.02.1868 г. у далёкім сібірскім горадзе Табольску. Туды быў высланы ў ссылку бацька пісьменніка — удзельнік студзеньскага паўстання 1863 года. У 1874 годзе Каганец вярнуўся ў Беларусь. Займаўся рознымі прафесіямі. Працаваў на гаспадарцы, быў леснікам, выконваў функцыю дзесятніка на будове чыгункі.

Каганец падкрэсліваў сваё высокае баярскае паходжанне, пры тым аднак гаварыў аб сваіх кроўных сувязях з сялянствам. Паслухайма пісьменніка:

„Я — кроў з крыві і косць з косці беларуса, з даўнейшых баяр княжаства Мсціслаўскага, каторы меў айчыма мужыка наднёманскага. І сам я часу колькі змалку, а потым, будучы ўжо дзецюком, жыў між сялянамі і разам пасвіў, разам працаваў і цяпер маю між імі сваякоў, дзеля гэтага я маю права паведаць ад імя сваіх сроднікаў-беларусаў“.

З цікавейшых фактаў у жыцці Каганца варта прыгадаць яго навуку ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу ў гадах 1885—1888. Факт гэты ў значнай меры акрэсліў удзел Каганца ў беларускім мастацкім руху нашаніўскай пары.

Нельга таксама не сказаць аб Каганцу як аб палітычным дзеячу. Прымаў ён актыўны ўдзел у стварэнні і дзейнасці Беларускай рэвалюцыйнай грамады і Беларускай сацыялістычнай грамады, якая была заснавальнікам і ініцыятарам усяго нашаніўскага руху. Як член цэнтральных улад гэтых арганізацый Каганец вёў агітацыйную работу сярод сялян. Гэтая агітацыя завяла яго два разы ў царскую турму. Першы раз сядзеў Каганец на пераломе 1905 і 1906 гадоў, другі раз ад 26.VII.1910 да 26.VII.1911 года. Сядзеў Каганец у Мінскай турме, у той самай, у якой з 1908 па 1911 год прабываў таксама другі пісьменнік-нашанівец Якуб Колас.

Каганец ужо ад прыроды не быў чалавекам моцнага здароўя. Меў ён пашкоджаны хрыбет, што было прычынай прыгорбленасці яго фігуры. Прабыванне ў турме радыкальна пагоршыла здароўе пісьменніка і зрабіла ўплыў на яго заўчасную смерць. Памёр пісьменнік на пяцідзесятым годзе свайго жыцця 20 мая 1918 года. Пахаваны Каганец на Навасёлкаўскіх могілках, якія знаходзяцца ў шасці кіламетрах ад Дзяржынска (Койданава).

Ужо спамянуты беларускі даследчык Касцяровіч пісаў: „Недалёка ад магілы, за кіламетраў шэсць, у Прымагіллі ля Юцкаў яшчэ стаіць хата, у якой пражыў большую палову веку Каганец. Уваход у яе праз такі ж невялічкі хлеў. Падлогі няма. Два вaконцы. Глінабітая печ. Гэта прычынілася дрэннаму здароўю Каганца. Да яе пазней прыбудавана другая хата з крытым ганкам, а паўз лесу стаіць магутная хвоя, пад якой Каганец тварыў свае вершы“ (М. Касцяровіч, На Каганцовай магіле. „Савецкая Беларусь“ 1928 г., нр. 17).

З цытаты відаць, што жыллёвыя ўмовы ў Каганца былі вельмі скромныя. Але мела гэта і добры бок: чалавеку, які жыве ў бядзе, лёгка зразумець бяду іншых.



 

# БГКТ-оўцы кандыдаты ў радныя

Сярод кандыдатаў у радныя павятовай рады нарадовай у Саколцы ёсць таксама дзеячы і члены сакольскага аддзела БГКТ.

**Аляксандр Рафаловіч** — многагадовы член Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ і адначасова намеснік старшыні сакольскага праўлення аддзела. Ён быў адным з тых, хто найбольш дзейнічаў пры стварэнні і развіцці БГКТ на Сакольшчыне. Аляксандр Рафаловіч многа год працуе на пасадзе сакратара павятовага камітэта ЗСЛ і шмат гадоў з'яўляецца таксама радным павятовай рады нарадовай. За добрую працу ўзнагароджаны Афіцэрскім Крыжам Адраджэння Польшчы, Залатым Крыжам заслугі і іншымі ўзнагародамі.

**Кастусь Мацько** — член прэзідыума сакольскага аддзела БГКТ. Многа год працуе ён у сакольскім ПЗГС-е, а цяпер яго ўзначальвае. За добрую працу адзначаны шматлікімі ўзнагародамі.

**Яўгень Жамойда** — жыхар вёскі Паўднёвы Востраў і яе перадавы гаспадар, атрымлівае высокія ўраджаі і развівае жывёлагадоўлю. Шмат год з'яўляецца ён актыўным членам БГКТ і членам ПАРП. Адзначаны Сярэбраным Крыжам заслугі.

**Мікалай Гаспэрчык** — актыўны член БГКТ, настаўнік з Шудзялава, а жыхар Паўночнага Вострава. У сваёй роднай вёсцы з'яўляецца сакратаром партыйнай арганізацыі, а ў Шудзялаўскай гміне выконвае функцыю гміннага старшыні ЗСМВ. Функцыю павятовага раднага выконвае і цяпер. Адзначаны Сярэбраным Крыжам заслугі.

**Віталіс Філіпік** — актыўны член БГКТ, дырэктар васьмікласнай зборнай школы ў Крушынянах. Дзякуючы яго арганізатарскай працы, школа залічаецца да адной з лепшых у павеце. Быў раней радным у Гурцы і членам ПК у Саколцы. Адзначаны Сярэбраным Крыжам заслугі. (мх)

НАШЫ СЯБРЫ

## Аляксандр Сахарчук



Пісьманосец Аляксандр Сахарчук з Клейнік Гайнаўскага павету карыстаецца вялікай сімпатыяй у вясковым асяроддзі. Ведае, як весці сябе сярод людзей, як з імі пачаць размову, хаця, вядомая рэч, не ўсе пісьмы, якія даручае, прыносяць добрыя весткі.

— Але людзі чакаюць заўсёды добрых вестак, — кажа Аляксандр Сахарчук. — Я вельмі зжыўся з людзьмі ў раёне свайго абслугоўвання. Здаецца, нядаўна насіў я ў суседнюю вёску каляровую тэлеграму з найлепшымі пажаданнямі для бацькоў, у якіх нарадзіўся сын. А сёння яму ўжо 10 гадоў і яму ўжо даручаю пісьмы.

Хутка выходзіць час у пісьманосца. Падумаць толькі, пісьманосец Аляксандр Сахарчук штодзень праходзіць не менш 25 кіламетраў, а дзе лепшая дарога, едзе мотавеласіпедам. Прывозіць пасылкі ў такія вёскі, як Малыя і Вялікія Тынявічы, Існок, Сапава, Рачкі, Слівова, Тынкаўшчызна. У апошні час мае ён 114 экземпляраў нашага тыднёвіка „Ніва".

Аляксандр Сахарчук многа ўвагі прысвячае таксама падпісцы на сельскагаспадарчую прэсу, перш за ўсё на часопісы "Хлопская Дарога", „Малады селянін", „Плён", „Аграхімія", „Жывёлагадоўля", „Гаспадыня" і іншыя.

Справа падпіскі на часопісы з'яўляецца вельмі важнай у працы кожнай паштовай установы. Многа ўвагі падпісцы, а ў тым ліку і справе распаўсюджвання „Нівы", прысвячае таксама шматгадовы начальнік пошты ў Клейніках Сцяпан Кот. Ён дау прыклад для пісьманосца Аляксандра Сахарчука, як здабываць новых падпісчыкаў на „Ніву" і іншыя часопісы.

Нас цешыць факт, што ў клейніцкай акрузе імення „Ніва" з'яўляецца найбольш папулярнай. Сардэчна віншуем клейніцкага пісьманосца з узнагародай ад рэдакцыі „Нівы" і дыпломнай узнагародай ад дырэктара павятовай паштовай установы ў Гайнаўцы.

Варта адзначыць, што Аляксандр Сахарчук узнагароджаны адзнакай „Перадавіка працы" і што гэта адзін з лепшых пісьманосцаў у Гайнаўскім павеце.

Тэкст і фота **Я. Ц.**

„БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-73"



*Удзельніца фінальнага агляду Бажэна Грыка з Саколкі.*

*Фота А. Карпюка.*

# КОНКУРС

**Што ведаеш аб туберкулёзе і алкагалізме?**

1. Назавіце два часопісы, прысвечаныя барацьбе з алкагалізмам.
2. Што прынёс хворым супрацьтуберкулёзны закон з 1959 года?
3. Ці туберкулёз і алкагалізм можна назваць грамадскай хваробай?
4. Ці ёсць у Польшчы закон для супрацьалкагольнай дзейнасці (калі так, дык у якім годзе ўстаноўлены)?
5. Як найхутчэй можна выявіць туберкулёз?
6. Што павінен рабіць чалавек, калі захварэе туберкулёзам?
7. Чым з'яўляецца масавае абследаванне рэнтгенам і якое яго значэнне?
8. Якія ведаеш прывіўкі ў супрацьтуберкулёзнай прафілактыцы?
9. Якім чынам можна ўстанавіць нецвярозасць?
10. Назавіце арганізацыю, якая займаецца барацьбой з алкагалізмам і туберкулёзам?
11. Што выклікае туберкулёз?
12. Якія ведаеш спосабы супрацьдзеяння туберкулёзу?
13. Да чаго даводзіць алкаголь?
14. Каму з сям'і хворага туберкулёзам найбольш пагражае заражэнне гэтай хваробай?

Адказы дасылайце на адрас: Wojewódzka Przychodnia Przeciwgruźlicza ul. Warszawska 18, skr. poczt. 43, 15-950 Białystok (Instruktor Oświaty Zdrowotnej p. 73).

Тэрмін: да 20 снежня.

Пераможцы атрымаюць рэчавыя ўзнагароды.

# ФАЛЬКЛОР

ЛЮБОЎНАЯ

Andante



Ой ты, ко-за-чэ, сі-вы го-лу-боч-ку,



Спо-до-бау-се мніе, йду-чы по во-доч-ку.



Спо-до-бау-се мніе, йду-чы по во-доч-ку.

*Ой ты, козачэ, сівы голубочку,*
*Сподобаўсе мніе, йдучы по водочку.*
*Сподобаўсе мніе, йдучы по водочку.*
*Ой, нэ так по воду, як і з діевчыною,*
*Сподобаўсе мніе своею ўродою.*
*Сподобаўсе мніе своею ўродою.*
*— Ой ты, діеўчыно, сівая голубко,*
*Ой, сядай, сядай, на мой чолон хутко.*
*Ой, сядай, сядай, на мой чолон хутко.*
*Ой, шчэ й діеўчына ў чолон нэ вступіла,*
*Як вырваласе нэшчасна годіна.*
*Як вырваласе нэшчасна годіна.*
*Як рыба-шчука хвостом вывільнула,*
*То й діевчыноньку з чолна выкінула.*
*То й діевчыноньку з чолна выкінула.*
*— Ой, ратуй, ратуй, козачэньку, ратуй,*
*То будэш міеті од ойца заплату.*
*То будэш міеті од ойца заплату.*
*— Ой, лепі буду ў воді потонаті,*
*Як за козаком горэ-гороваті,*
*Як за козаком горэ-гороваті.*

Ад Анны Стахвіюк, 1924 года нараджэння, вёска Трасцянка Гайнаўскага павету запісаў 2 жніўня 1973 года Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіла Людміла Панько.

Песню спявалі на вечарынках пры пражы кудзелі.

ГАЙНАЎСКІЯ АКТЫВІСТЫ БГКТ

## Кастусь Ваўрэшук і яго сябры



Кастусь Ваўрэшук прыйшоў у рады БГКТ не так даўно. Малады гэта яшчэ хлапец. Ён сказаў: „Яшчэ будучы ў пачатковай школе, марыў я, што пайду ў беларускі ліцэй, бо толькі там змагу лепш пазнаёміцца з беларускай культурай, гісторыяй народа, лепш вывучыць родную мову. Многа чытаю беларускіх кніжак, а „Ніва" — мая першая газета, яе я чытаю ад пачатковай школы".

Гурток БГКТ у Збучы. Функцыю старшыні члены яго даверылі імення Косці Ваўрэшуку. Працуе добра. „Заслуга ў гэтым, — кажа, — і маіх сяброў і сябровак — сакратара Кузьмы Сапяжынскага, касіра Зоі Саенка і іншых членаў нашага гуртка. У нас у 100 працэнтах аплочаны складчыны. Згодна з планам працы, арганізуем сустрэчы, гутаркі, робім газеткі, пры дапамозе праўлення аддзела дэманструем беларускія і рускія фільмы. Нядаўна, з выпадку 30 гадавіны ЛВП паказалі мы людзям 2 фільмы. У рады нашай арганізацыі прынялі мы многа маладых. Пастараемся не падвясці і ў песенным конкурсе.

Было б добра, каб многія маладыя члены БГКТ узялі прыклад з моладзі ў Збучы і ў сябе разгарнулі такую дзейнасць. Напэўна ёсць на нашай Гайнаўскай зямлі і іншыя добрыя дзеячы на ніве БГКТ, і пра іх пастараемся напісаць у наступных нумарах „Нівы".

**Віктар Бура**
сакратар аддзела БГКТ
у Гайнаўцы

# Выхаваўчая кара

Прысудныя калегіі рад нарадовых знайшлі цікавае выйсце для п'яных буянаў, якія любяць пускаць у людзей нецэнзурнымі словамі, абражаць іх годнасць, выклікаць скандал. У Беластоку калегія карае іх абавязкам замятання вуліц. А гэтая кара для іх найгоршая. Яны рады былі б заплаціць грошы, а нават адсядзець у арышце, толькі каб не замятаць вуліц. Дык робяць гэта пераважна ноччу, каб не бачылі людзі. Што ж, відаць гэта вельмі выхаваўчая кара.

У Нараўцы прысудная калегія нядаўна таксама засудзіла 5 асоб на падобныя кары. Юрый Панькоўскі (сын Шымона) павінен адпрацаваць сорак гадзін там, дзе вызначыць гміна, Мікалай Кісялеўскі мае адпрацаваць 150 гадзін, бо ён па-п'янаму яшчэ лепш, чым Панькоўскі праявіў у гасподзе свае „здольнасці". (мх)

# Не пякуць хлеба

Пячы хлеб — справа клапатлівая. На вёсцы хлеб пякуць рэдка калі раз у тыдзень. Пераважна — раз на два тыдні, бо і работы з ім многа, і дроў шмат ідзе. Але і радзей пячы хлеб нельга, таму, што ён чарствее ды цвіце, калі доўга паляжыць. Усім гэтым нявыгадам памаленьку прыходзіць канец. Сяляне ўсё больш купляюць хлеб, напечаны ў пякарнях. А ёсць ужо такія вёскі, дзе людзі ўжо адвыклі зусім пячы хлеб. Напрыклад, у Сухавольцах. У мясцовую краму хлеб прывозяць з Кляшчэляў два разы ў тыдзень. У месяц жыхары гэтай вёскі спажываюць 1200 кг хлеба, напечанага ў кляшчэлеўскай пякарні. (мх)




# Мельнік на крэйдзе стаіць

Від на белую капальню.

Барбурка — гэта традыцыйнае гарняцкае свята, якое святкуецца 4 снежня ў дзень Барбары — апякункі гарнякоў. Калі набліжаецца Барбурка, думаем пра людзей Шлёнска, якія дабываюць вугаль. Аднак трэба памятаць, што ў нас, на Беласточчыне ёсць таксама гарнякі: тыя што працуюць у каменяломах і работнікі мельніцкіх капальняў крэйды. Аб іх і пойдзе сёння гутарка.

## ДАЎНЕЙ БЫВАЛА

Гісторыя мельніцкай крэйды доўгая. Тутэйшыя людзі гавораць, што ўжо 200 год таму назад капалі тут крэйду. Мельнічане капалі глінку (бо так у ваколіцы называюць крэйду) на сваіх участках зямлі. Прымянялася яна асабліва пры бяленні памяшканняў. У перадсвяточныя дні мельнічане з гамолкамі глінкі выязджалі на кірмаш, дзе прадавалі крэйду, а часта ездзілі і па вёсках. Амаль усе вясковыя хаты маляваліся глінкай.

Аднак слава мельніцкай крэйды ішла далёка. Гістарычныя дакументы сцвярджаюць, што Брэсцкая крэпасць пабудавана на аснове вапны з мельніцкай крэйды. Будаўнічы матэрыял давозіўся з Мельніка да Брэста фурманкамі.

Мельніцкія крэйдзяры гавораць, што іх гістарычным пабратымам была Луплянка. Тут таксама ў мінулым капалі крэйду і прадавалі для бялення хат.

## ПАСЛЯ ВАЙНЫ...

...эксплуатацыяй крэйды занялося дзяржаўнае прадпрыемства — Сямяціцкі завод будаўлянай керамікі. Тады была тут толькі адна капальня, што знаходзілася на Бугу (зрэшты, ужо не існуючая). Перапрацоўвалася тут глінка на фармаваную крэйду і гэта ўсё.

Умовы працы былі вельмі прымітыўныя і цяжкія. Выкапаную глінку раскладалі на траве і тапталі босымі нагамі, вымешваючы яе. Затым яна падсыхала, фармавалася ў плiткі і ў такім стане прадавалася. Яшчэ ў 1954 годзе адзінымі прыладамі працы ў капальні былі: лом, кірка і клін.

Потым наступіла частковая механізацыя. Прыйшлі першыя экскаватары, быў пашыраны асартымент, на што дазволілі пабудаваная сушарня і цэх млыноў.

## ЗАРАЗ...

...мельніцкі крэйдавы завод прадукуе поўны асартымент крэйд: молатая малярская крэйда — для малявання памяшканняў; кармавая крэйда — як дадатак да корму жывёле; т. зв. шлямованая крэйда для хімічнай прамысловасці — як дадатак да прадукцыі плітак PCV, да прадукцыі гумы, фарб і г.д. Апрача таго, Мельнік прадукуе тэхнічную крэйду для прадукцыі кіту і фармаваную крэйду. Для сельскай гаспадаркі вырабляецца тут крэйда для адквашання палёў і лугоў. У апошні час уведзен у прадукцыю новы гатунак школьнай крэйды. Тэхналогія крэйды такая, што мельніцкая крэйда заўсёды піша на дошцы.

Мельніцкі крэйдавы завод і цяпер мае ўстарэлы, мала эканамічны тэхналагічны працэс прадукцыі, аднак ужо ў гэтым годзе распачалася мадэрнізацыя. За 6 мільёнаў зл. будзе пабудаваны сучасны цэх, цалкам механізаваны. Самаход з крэйдай пад'едзе і высыпле яе з аднаго боку, а з другога боку цэха будуць выходзіць ужо мяшкі са зважанай крэйдай.

У самой капальні праца ўжо цяпер упаўне механізавана, аб чым можа сведчыць толькі 13 чалавек, працуючых у капальні. Цяжкія экскаватары і бульдозеры замянілі цяжкую працу людзей.

Частка сыравіны перарабляецца на месцы ў Мельніку, частка — на недалёкім заводзе на станцыі Сямяцічы, а частка высылаецца вагонамі ў розныя куткі Польшчы: у Гуціска к/Кракава, у Познань і Старалэнку. Вываз мельніцкай сыравіны не эканамічны. Паколькі гэта крэйда мае 25 працэнтаў вады, то атрымліваецца, што кожны чацвёрты вагон гэта пераважаная вада. Аднак мадэрнізацыя і развіццё завода ліквідуюць і гэты недахоп.

З заводам зжылося многа сем'яў. У завадскім калектыве вядомыя прозвішчы Усовічаў, якія працуюць ужо тры пакаленні, сям'я Кас'янюкоў і іншыя.

Завод — гэта не толькі месца працы для людзей. Завод уключыўся ў грамадскія працы на карысць усіх жыхароў Мельніка. Сваімі машынамі дапамагае пры перабудове вуліц, зрабіў выкапы пад фундамент цэнтра здароўя, прызначыў 780 тысяч злотых на пабудову водаправода.

З нагоды Барбуркі 145-асабоваму калектыву мельніцкага крэйдавага завода жадаем поспехаў.

**Л. Карпюк**
фота аўтара



Так пакуль што важаць крэйду ў Мельніку.



Разбураны мельніцкі замак.




## ПЕРАД СВЯТОЧНЫМІ ПАРАДКАМІ

Зімовыя святы не за гарамі. Так што найбліжэйшыя тыдні варта прысвяціць парадкаванню ў хаце, з тым, каб пазней мець вольны час на падрыхтоўку смачных святочных патраў.

Нельга забывацца, што пры парадках у хаце вельмі дапамогуць вам розныя хімічныя прэпараты, дзякуючы якім праца гэта не будзе вельмі цяжкой і ісці будзе хутка і спраўна.

Для чышчэння шыб, люстраў і розных шкляных шафак прызначаны вадкасці „Ewa", „Silux", „Kryształ" і „Solidol".

Дываны, кілімы, мяккую мэблю чысцім прэпаратамі: „Pers", „Pianka", „Dywanol".

Для мыцця санітарнага абсталявання (ванны, ракавіны, ракавіны ў прыбіральнях) служаць парашкі „Jawox", „Radix", „Czyścik", „Wowo", „Luxon", пасты „Dom", „Luxon", „Alum" і вадкасць „Skrzat".

Для чышчэння металу — нікеліраваных рурак, кранаў, клямак і г.д., найлепш падыходзяць крэмы „Neosidol" і „Sidoral" і вадкасць „Ewa".

Для мыцця кухоннага і сталовага посуду, а таксама прадметаў са штучнага рэчыва і розных лакіраваных паверхняў ды глазуры служаць вадкасці „Tip-top", „Kuchcik", „Ludwik", „Skrzat" і парашок „Jawox".

Для шаравання кухоннага посуду падыходзяць найбольш парашкі „Jawox", „Radix", „Czyścik", „Luxon", „Wowo", „Skrzat" і пасты „Alum", „Luxon", „Dom".

Аконныя рамы, дзверы, шафкі і розныя прадметы, памаляваныя алейнай фарбай, найлепш мыць парашком „Ixi". Толькі трэба памятаць, што раствор павінен быць намнога слабейшы, чым для мыцця бялізны. Можна мыць таксама парашкамі і вадкасцю, прызначанымі для мыцця посуду, хаця б папулярным „Людвікам". Нельга аднак ужываць для гэтай мэты звычайных парашкоў для мыцця бялізны, паколькі фарба будзе жаўцець і адпрыскваць.

І яшчэ адно. Якраз цяпер, у перыяд інтэнсіўнай падрыхтоўкі да свят і парадкавання ў хаце, варта памятаць, што прымяненне гэтых розных паст, вадкасцей і парашкоў для прання і чышчэння высушае скуру рук. Таму нельга забывацца аб тым, што разам з гэтым неабходна прымяняць спецыяльныя крэмы для рук. Так што, купляючы парашкі ў хімічным магазіне, варта адразу ж зайсці ў драгерыю і купіць крэм „Silikonowy", „Owocowy", „Uroda" або які іншы для рук. Крэм гэты неабходна ўціраць у рукі перад тым, як збіраемся іх доўга мачыць у розных хімічных прэпаратах, а таксама штодзень нанач, нягледзячы на тое, якую працу будзем выконваць ўдзень.

**Гаспадыня**




# В. Розін, Л. Сідараў — Хрызантэмы для турэмнай сцяны

— Правядзенне сустрэч з калегамі, ці „выхад на сувязь", як мы, прафесіяналы, гаворым, — зазначае Блейк, — заўсёды адзін з самых небяспечных момантаў у рабоце разведчыка. Любы, нават вельмі старанна падрыхтаваны выхад на сувязь нясе ў сабе патэнцыяльную рызыку. А часам жа неабходна прырашэнне адразу ж, на месцы...

Так было і тады, у 1953 годзе... Ужо на падыходзе да абумоўленага месца вопытны позірк заўважыў паліцэйскую машыну, падазроных людзей на вуглу. Што такое? Павярнуць назад? Адмовіцца ад сустрэчы? А што падумаюць таварышы? Яны ж будуць хвалявацца, не ведаючы, што здарылася. Але ўсё абышлося добра. Блейку ўдалося ўстанавіць, што паліцыя шукае крымінальнага злачынцу. Важная сустрэча адбылася.

— У Сікрэт інтэліджэнс сервіс і ў ЦРУ, — усміхаецца Блейк, — многія зрабілі сабе кар'еру на гэтым праслаўтым тунелі. Разведка сабрала тут такую колькасць „інфармацыі", што спатрэбіўся вялікі апарат спецыялістаў для яе апрацоўкі...

Пасля работы ў Лондане Блейк накіроўваецца ў рэзідэнтуру СІС у Заходні Берлін, Блейк працуе там некалькі гадоў і ўваходзіць у важную групу супрацоўнікаў Інтэліджэнс сервіс, якая непасрэдна займаецца работай супраць Савецкага Саюза.

— Ці не маглі б вы, Джордж, у сувязі з гэтым прывесці некалькі прыкладаў падрыўной дзейнасці англійскай разведкі супраць Савецкага Саюза, іншых сацыялістычных краін і іх грамадзян?

— Ахвотна. Большая частка дзейнасці СІС накіравана супраць Савецкага Саюза і сацыялістычных краін.

Расказваць аб арганізацыі работы англійскай разведкі супраць СССР можна вельмі шмат. У 1955 годзе, напрыклад, пасля нарады ў СІС было створана спецыяльнае падраздзяленне „Руская апаратыўная секцыя". У яе задачы ўваходзіла ўзмоцніць работу супраць савецкіх грамадзян, якія знаходзяцца за граніцай, у тым ліку ў Лондане, закідваць агентуру на тэрыторыю СССР, актывізаваць мерапрыемствы супраць дыпламатычных і іншых прадстаўніцтваў СССР за рубяжом.

Магчыма, пра гэта яшчэ давядзецца гаварыць, але вось цяпер я ўспомню адну аперацыю СІС у Заходнім Берліне. Гэты горад з самага пачатку разглядаўся ў колах англійскіх і амерыканскіх разведак як фарпост шпіёнскай дзейнасці супраць рускіх. І вось СІС арганізавала непадалёк ад граніцы савецкага сектара спецыяльны магазін. На думку англійскай разведкі, гэта крама павінна была выкарыстоўвацца для ўстанаўлення кантактаў з савецкімі людзьмі, для ўцягнення іх у розныя камерцыйныя здзелкі і як вынік — вярбоўка. Гаспадаром магазіна з'яўляўся агент англійскай разведкі, немец па паходжанню. Прадугледжвалася, што як толькі ў магазіне з'явіцца першы рускі, яго неабходна перакanаць зрабіць заказы на дэфіцытныя тавары і дамовіцца, каб ён прыйшоў яшчэ. Больш таго, магазін прадстаўляе пакупніку поўныя льготы. У зручны момант рускага заказчыка, прыдумаўшы пэўную прычыну, павінны пазнаёміць з прадстаўніком брытанскай разведкі, які і зоймецца яго далейшай апрацоўкай.

Раскажу пра адзін цікавы выпадак, які звязан з гэтым магазінам. Неяк днём, у час дзяжурства па рэзідэнтуры СІС, я атрымаў умоўны сігнал ад гаспадара магазіна: „З'явілася руская". У магазін давялося выехаць мне. Там я і павінен быў увайсці ў кантакт з пакупніцай. З першых мінут гэты кантакт развіваўся вельмі лёгка і проста. Жанчына назвала сябе Нінай, заявіла, што яна працуе інспектарам на камутатары штаб-кватэры савецкіх войск у Карлсхорсце, і праявіла недвухсэнсоўную зацікаўленасць у працягу кантакту са мной. Далейшая, больш старанная праверка паказала, што Ніна зусім не з'яўляецца Нінай, што яна ніякая не руская, а працуе ў Заходнім Берліне ў аднаго амерыканца — супрацоўніка Цэнтральнага разведвальнага ўпраўлення... Ну, а што датычыць магазіна, то яго давялося праз некаторы час закрыць, як „вельмі нерэнтабельны пункт". Вам, відаць, зразумела чаму? Разам з тым, дадаў Блейк, — мне не хацелася б, каб у вас склалася няправільнае разуменне аб узаемаадносінах СІС і ЦРУ.

Аб тым, што спецыяльныя службы імперыялістычных дзяржаў у той ці іншай ступені каардынуюць сваю дзейнасць і нават праводзяць сумесныя аперацыі, накіраваныя супраць Савецкага Саюза і іншых сацыялістычных краін, супраць міжнароднага камуністычнага руху, супраць прагрэсіўных арганізацый, вядома. Вялікую цікавасць, на маю думку, мае пытанне аб тым, якую работу разведкі заходніх дзяржаў вядуць адна супраць адной. Так, напрыклад, англійская разведка пастаянна займаецца актыўным вывучэннем французскіх разведвальных і контрразведвальных службаў. У Заходнім Берліне рэзідэнтура СІС складала падрабязныя характарыстыкі і мела картатэку на работнікаў французскіх разведвальных і контрразведвальных службаў. Вялося іх актыўнае вывучэнне з мэтай устанавіць, хто з іх мог быць выкарыстаны СІС.

(Заканчэнне ў наступным нумары)

*— Зайсёды скардзіўся, што яго стол завалены справамі!...*

**НЕ ПРАБЛЕМА**

Аднаму адвакату ўдалося выцягнуць свайго падабароннага з даволі брудпай справы.

— Ах, пан адвакат, я не ведаю, як выказаць вам сваю ўдзячнасць.

— Дарагі мой, з таго часу як чалавецтва вынайшла грошы, гэта не праблема.

**ЧАМУ?**

У рэстаране афіцыянт накрывае стол для банкета. Метрдатэль, які праходзіў міма, спыняецца і здзіўлена пытае яго:

— Паслухай, чаму гэта ў цябе адлегласць паміж прыборамі па два метры?

— Дык банкет жа наладжвае клуб рыбаловаў...

**ПАШАНЦАВАЛА**

Тэхаская дама гаворыць свайё знаёмай:

— Майму беднаму мужу ўсё жыццё не шанцавала, яму пашанцавала толькі пасля смерці.

— Як пасля смерці?

— Калі яму капалі магілу, натрапілі на нафту.

*ЧАГО Ў СПОРЦЕ НЕ БЫВАЕ!*

*— Будзеш выплёўваць зубы, дык памятай, што нас паказваюць па тэлевізару.*

Сябра!

Падпіска на

«Ніўку»

прымаецца

не тут,

а ў любой

паштовай

установе.

**ПАВАЖАНЫЯ СЯБРЫ!**

**Калі вы хочаце рэгулярна чытаць «Ніву», рэкамендуем аформіць гадавую падпіску. Цана: 28 зл 80 гр.**

# НІЎКА

*Экіпіроўка паляўнічага на дзіка.*

## МІНІБАЙКІ

**НАРАЧОНАЯ**

— Ты для мяне выскачыш з пятага паверху? — спытала мяне нарачоная.

— Выскачу.

Пайшоў і выскачыў.

— А каня на скаку затрымаеш?

Паехаў у вёску і затрымаў.

— А хуліганаў у міліцыю даставіш?

Адшукаў некалькі хуліганаў. Даставіў.

— Ну, цяпер выйдзеш за мяне замуж? — спытаў я.

— Не, — уздыхнула нарачоная, — вельмі ўжо ты паслужлівы. За Гарохава выйду. Я для яго з дзесятага паверху скакала.

**Леў Карсунскі**

## МІНІВЕРШЫ

**АБАРОНЦА ЗАКОНУ**

Падпіўшы дбае пра закон,
Аж шыбы сыплюцца з акон,
А пераспіць — і ўсю віну
Прыпіша піву і віну.

**Іван Белы**

**ЗНАХОДЛІВЫ**

Ён вынаходніцтвам
здзівіць усіх раз думаў,
Не атрымалася — сказаў:
— А я раздумаў.

**Іван Бычанкоў**

**СТАМІЛАСЯ**

Доктар наклаў гіпс на зламаную нагу старой Марце і папярэдзіў яе, каб яна не хадзіла па лесвіцы, пакуль не будзе зняты гіпс.

Праз тры тыдні Марта спытала, калі яна зноў зможа карыстацца лесвіцай.

— А хіба вам так ужо неабходна хадзіць па лесвіцы?

— Разумееце, доктар, за гэтыя тры тыдні я проста стамілася лазіць па вадасцёкавай трубе, — сказала старая Марта.

*Аўтамат да запальвання.*

**...Ён можа ўзяць любую перашкоду, каб паставіць сябе перад другім.**

**...Парася абурылася, што яго назвалі свіннёй.**

**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

По просьбе Ірыны Рабчук з Вроцлава змяшчаем папулярную песню

**Słowa: Janusz Kondratowicz**
**Muzyka: P. Figiel, U. Sipińska**

## To był świat w zupełnie starym stylu

Szukałam ciebie długo, pogubiłam dni,
a kiedy cię znalazłam, to nie byłeś ty,
wyjęłam z dna szuflady album z dawnych lat
i weszłam w świat, w nasz świat z seansu w starym iluzjonie.

To był świat
w zupełnie starym stylu,
to był świat
zza szyb automobilu.
Śmieszny świat,
pasjanse, potem koncert,
w świetle świec
ktoś grał na klawikordzie.
Śpiewał walc
w karnecie zapisany
ty i ja,
znów w sobie zakochani.
Szalał bal
aż do białego świtu,
to był świat
w zupełnie starym stylu.

A gdy ucichły struny, zgasły iskry świec,
otwartym oknem nagle wpadł słoneczny dzień,
na dno szuflady wrócił album z dawnych lat
i zamknął się nasz świat z seansu w starym iluzjonie.

To był świat
w zupełnie starym stylu,
to był świat
zza szyb automobilu.
Śmieszny świat,
wyścigi na Dynasach,
ty i ja,
znów razem na wywczasach.
Potem film
z Rudolfem Valentino,
pierwszy raz
szumiało w głowie wino.
Tyle lat
przebiegłam w parę minut,
to był świat
naprawdę w starym stylu.
To był świat
w zupełnie starym stylu...

## ГУМАР З

**ПАНЫ Ў ПЕКЛЕ**

Едзе бедны мужык дарогаю, а пан едзе шасцёркай коней. І пытаецца ў яго:

— А адкуль ты, чалавеча?

А ён кажа:

— З таго свету.

— А што нашы бацькі там робяць?

— А што ж, вяльможны пане! Панам усюды добра: у катлах сядзяць, люлькі кураць, а бедны мужык дровы рубае і пад іх падкладае!

## ПЛАДЫ ВЫХАВАННЯ

Вось жа комікі гэтыя дзеці! І чаго яны толькі не прыдумаюць! Асабліва калі адны. І калі няма чым заняцца.

Бацькі Светы і Валеркі пайшлі да знаёмых на імяніны. Дзецям сумна, і малодшы Валерка, нарэшце, не вытрымлівае:

— Давай у што-небудзь згуляем!

— У што? — пытае Светка. — У магазін — гулялі, у школу — гулялі, у хованкі — таксама...

Дзеці на хвіліну задумваюцца. Першай здагадваецца Светка:

— Я буду гаспадыняй. А ты ідзі на работу.

Валерка выйшаў у другі пакой. Праз хвіліну дзверы пацiху адчыняюцца і заходзіць Валерка. Ён глядзіць, чым займаецца Светка.

— Хіба ж так тата прыходзіць? — незадаволена гаворыць сястра. — Ён павінен дзвярыма грымнуць.

Валерка ўрываецца ў пакой другі раз менавіта так.

Не зірнуўшы на Светку, падыходзіць да тэлевізара і садзіцца ў мяккае крэсла.

— Зноў налізаўся, — бурчыць пад нос Светка, як гэта звычайна робіць маці.

— Светка! — праз хвіліну, забыўшыся, гукае Валерка.

Але сястра папраўляе:

— Не Светка, а „жонка“ або „старая“!

— Старая! — яшчэ званчэй крычыць Валерка. — Штосьці кепска мне. Прынясі квасу.

— А смалы не хочаш? — бурчыць Светка. — Дзе я табе ноччу таго квасу дастану? На, хіба, марынаваных агуркоў.

— Квасу прасіў, а ты што прынесла? — крычыць што ёсць сілы Валерка і кідае талерку вобземлю.

— Што ты робіш?! — першай апамяталася Светка. — Ты ведаеш, што будзе, калі бацьку не будзе чаго біць?!

— Я — бацька! — крычыць Валерка, увайшоўшы ў ролю. — Не трэба мне тваіх агуркоў марынаваных. Квас падавай!

— А можа гэта з'ясі? — прыносіць Светка памідоры ў жалезнай місцы. — Як рукой здыме.

— Я табе галаву здыму! — крычыць Валерка і шпурляе памідоры.

Светка, нарэшце, прыносіць шклянку вады.

— На табе і квас.

— Вось бачыш! — радасна гаворыць Валерка. — Усё знойдзеш, калі захочаш.

Раптам расчыняюцца дзверы і заходзяць бацькі. Маці хвіліну маўчыць, потым пытае:

— Што ў вас такое адбываецца?

— Нічога, — гаворыць Светка. — Проста мы гулялі...

Бацька, нібы нічога не заўважыўшы, накіроўваецца на сваё любімае месца і крычыць на Валерку:

— Пайшоў прэч!

Уключыўшы на поўную магутнасць тэлевізар, гукае жонку:

— Старая! Штосьці кепска мне. Прынясі квасу!

Гульня закончылася. Пачалося жыццё...

**Расціслаў Бензярук**

## КУРЁЗЫ

**ЗАБАРОНЕНЫ ПЛОД БОЛЬШ САЛОДКІ**

Напэўна, нездарма тытунёвая фабрыка ў галандскім горадзе Дордрэхце выпусціла ў продаж новую марку цыгарэт. Рэклама сцвярджае, быццам зроблена гэта для таго, каб людзі „курылі разумна і ўмерана“. Цыгарэты называюцца „Мемор“ (ад лацінскай „мемента моры“ — памятай пра смерць). Надпіс на этыкетцы з малюнкам чэрапа гаворыць: „Шкодна курыць цыгарэты, ужываць алкагольныя напіткі і прымаць наркотыкі. Ідзі на магілкі з „Мемор“ і захапляйся дымам з цыгарэт“.

Псіхалагічны разлік аказаўся правільным — „мемор“ карыстаецца ў галандскіх курыльшчыкаў вялікім поспехам.

**ЯШЧЭ АДЗІН „РЭКОРД“**

„Самая доўгая карціна свету“ створана ў мястэчку Бад-Мюнстэрайфель (ФРГ). На працягу тыдня 1.000 матакоў-аматараў размалявалі фарбамі ўчастак дарогі даўжынёю 700 метраў. Для стварэння „карціны“ запатрабавалася 125 кілаграмаў фарбы.

**СПАЧАТКУ ЗАПЛАЦІЦЕ...**

Пажарная машына, якая на велізарнай скорасці ляцела на тушэнне палаючага дома паблізу іспанскага горада Барселоны была раптоўна спынена на шашы, уладальнікі якой запатрабавалі ад пажарнікаў заплаціць таксу за праезд.

Пажарнікі не ведалі, што яны ўз'ехалі на прыватную шашу. Акрамя таго, у іх не было з сабой неабходнай сумы грошай. Пакуль брандмайстар спрачаўся з уласнікамі шашы, пажар зрабіў сваю справу.

## МІЖ НАМІ

**Чым менш выконваюцца загады, тым больш іх пішуць.**